Цана асобнага № 40 кап.

# ВОЛЬНАЯ БЕЛАРУСЬ

ТЫДНЁВІК палітычны і літэратурны

Ніхай жыве незалежная Беларусь!

УМОВЫ ПАДПІСКІ:

| | |
|---|---|
| На год | 12 р. — |
| На паўгода | 7 р. — |
| На 1 месяц | 1 р. 50 к. |

Перамена адрасу 50 к.

Адрэс рэдакцыі і адміністрацыі: г. Менск, Захараўская, 18.

ГОД ВЫДАННЯ II.

№ 34. 6-го кастрычніка 1918 г. № 34.

## Праграма па гісторыі Беларусі.

### I. Папярэднія увагі.

*Беларуская зямля,*—яе межы, агульны характар і абшары. Утварэнне беларускай народнасьці, у аснову каторай ляглі: Крывічы, Дрыгавічы і Радзімічы.

Самае вялікае было племя Крывічоў; яно жыло па верхнему цёку З.-Дзьвіны (Падзьвінне), Волгі і Днепра. Тыя Крывічы, што пасяліліся каля рэчкі Полаты, называлі сябе Палачанамі. Каля рэчкі Сожы (Радань) жылі Радзімічы, самае меншае племя. Дрыгавічы займалі абшары паміж Прыпяцццю і Днепрам на усходзе, ад Днепра на Менск, ад Менску праз вяршыну Нёмна і далей праз Пінскія балоты назад да Прыпяці.

*Суседнія плямены*, каторыя часткамі увайшлі у склад беларускай народнасьці: а) па суседству з Радзімічамі на усходзе жылі Вяцічы і Север («і Радзімічы, і Вяцічы, і Север адзін абычай імяху»); б) суседзямі Дрыгавічоў з поўдня, былі Дрэуляны і Бужаны або Валынены, а з заходу літоўскія плямёны, прыкладам, Яцьвягі, што жылі паміж Мазыром і Пінскам.

*Літва*, як суседнае чужынскае племя, слабое і неарганізованае. Літоўскія лясістыя абшары заўсёды адчынены для калёнізацыі, і беларускія плямёны жывуць сумесна з Літвою спакон веку.

*Хібнасьць вестак* аб паганскіх часох гісторыі беларускіх плямёнаў. Беларускія летапісы згінулі падчас захвату Полацку маскоўскім царом Іванам Грозным. Тым часам беларускія плямёны жылі заўсёды сваім асобным жыцьцем, рэдка мяшаліся у справы суседаў, а дзеля таго і весткі аб іх у чужынскіх летапісах вельмі рэдкія і прыпадковыя.

*Курганы і іх раскопкі.* Беларускія плямёны не ваяўнічыя, любяць гаспадарку і гандаль. У курганных магілах рэдка спатыкаецца зброя, часьцей — хлебаробскія прылады, а так сама шалі і іншыя рэчы гандлярства. Высокая ступень культуры у беларускіх плямёнаў у параўнанні з другімі суседнімі плямёнамі, пра вошта сьведчаць багатыя, мастацкі зробленыя, размаітыя уборы, як прывознаго, так і мяйсцоваго гатунку, штоназнаходжаны у курганох. Цікава, што некаторыя рэчы хатняго ужытку самае сівае старасьветчыны беларус захаваў да нашаго часу. Але параўнанне рэчаў хатняго абыходку цяперашняго беларуса з рэчамі старасьвецкімі гаворыць не на карысьць сучаснасьці. «Курганныя рэчы», кажа проф. Завітневіч, „па свайму матэрыялу каштоўней, а па кшталту разнастайней, штучней, а подчас нават зграбнейшыя за цяперашнія». Гэта зразумело, калі заўважыць, што праз Беларусь таго часу праходзіла вялікая водная дарога «изъ варягъ въ греки», па каторай шпарка адбываўся мянавы гандаль з самымі далёкімі усходнімі краямі. Такім чынам, ужо у час сівай старасьветчыны. у эпоху утварэння дзяржаўнасьці і прыняцця хрысьціянства беларускія плямёны стаялі на значнай ступені культурнасьці.

*Быт беларускіх пляменаў.* Кожнае племя мело свой нораў і звычай. Заняцце кожнаго племя. Хлебаробство, зьвераловство і гандаль.

*Гарады:* у Крывічоў—Полацак, Смаленск, Менск; у Дрыгавічоў—Тураў, Бярэсьце, Клецк. У Радзімічаў гарадоў не упамінаецца.

*Мова,* як прымета племяні. Асаблівасьці смаленска-полацкай гутаркі ужо у час утварэння дзяржаўнасьці. Магчыма, што мова Дрыгавічоў была адною з тых славянскіх гутарак, на каторую пераложаны першыя кніжкі для набажэнства сьв. Кірылам і Мефодыем (Е. Карскі). Старасьвецкая кніжная мова; яна пануе у вуніяцкіх школах і духоўных вучылішчах да 1863 г.

*Белая Русь.* Гістарычнае тлумачэнне гэтай назвы. Крывічы першыя палажылі пачатак дзяржаўнасьці. Дзяржаўнае будаўніцтво пашыралося гэткай сьцежкай: Полацак—Пскоў—Ноўгарад—Кіеў. Пскоў і Ноўгарад—калёніі Полацкаго княства, каторыя, разбагацеўшы жывучы на дарозе «изъ варягъ въ греки», паволі адлучаюцца і робяцца незалежнымі. Тым часам, гістарычныя традыцыі яшчэ доўга трымаюць на іх увагу беларуска-літоўскіх князёў, каторыя разглядаюць Пскоў і Ноўгарад, як свае даўнейшыя вотчыны. і часта у спорках з маскоўскімі князямі пасылаюцца на дзядоўскія запісы. Гэта было прычынаю таго. што маскоўскі цар Іван Грозны, аграбіўшы у 1563 г. Полацак, рашуча адмовіўся вярнуць захопленыя паперы і іншыя рэчы гістарычнай вартасьці, калі яго прасілі беларускія паслы посьля вызваленння Полацку, прапануючы нават выкуп. Цікава, што посьля гэтаго Іван Грозны першы перастаў вымагаць ад беларуска-літоўскіх (і польскіх) каралёў, каб яны мянавалі яго царом, хоць да таго часу спорка за царскі тытул вялася упарта, аж да пагрозы вайною, калі беларускія паслы у Маскве адмаўляліся вялічаць маскоўскіх князёў царамі, а каралі не ужывалі гэтаго тытулу у сваіх граматах.

Белы—азначае: першы, старэйшы, кіраўнічы. Князі полацкаго роду даводзіліся старэйшымі усім іншым князём, як роданачальнікі. Праўдзівей за усё, што і наогул Руссю зваўся гурток кіруючых людзей, моўляў, «белая костка», князі, „лепшыя людзі". А як яны усё рабілі і гаварылі ад імя усяго племя, то і імя „Русь" перайшло на падуладны ім народ. З гэтаго відаць, што назва **Белая Русь** азначае — кіруючая, старэйшая, маючая права на **першынство**.

За гэтае дзяржаўнае першынство у кіеўскіх князёў з полацкімі вяліся даўгалетнія войны. Войны гэтыя адбываліся з страшэннаю заўзятасьцю і з вялікім краваправліццем. („На Немизѣ снопы стелютъ головами, малотятъ чепи харалужными, на тоцѣ животъ кладутъ, вѣютъ душу отъ тѣла. Немизѣ кровави брезѣ не бологомъ бяхуть посѣяны, посѣяны костьми рускихъ сыновъ").

### Полацкі перыод.

Пачатак Полацкаго княства. Полацак—самае даўнейшае беларускае княство. Тут з-няпомных часоў княжыў род мяйсцовых князёў, аб каторых адна скандынаўская песьня успамінае ужо у VI веку да Нарадж. Хрыста. Але іменняў тых князёў гісторыя нам не захавала. Найдаўнейшы Полацкі князь—Рагвалод. Рагнеда, дачка Рагвалода. Уладзімер сьвяты, князь кіеўскі і Рагнеда або Гораслава, Сьмерць Рагвалода і яго сямьі ад рукі Уладзімера, князя кіеўскаго. але застаюцца Рагвалодавы унукі. „Рогволожы внуцы взнмают меч", як выслаўляецца летапісь проціў князёў кіеўскіх. Справядлівей за усё, што ад Рагвалодавых унукаў і пачалі свой род будучыя князі беларуска-літоўскія.

# Апаведанне без назвы. *)

**«Панскія дзяўчаты», або Юзікава натура.**

Юзік так расхадзіўся, перацінаючы і скачучы на аднэй назе, што матка мусіла яго супыніць.

— Годзі табе, сынок,— а то галоўка забаліць!

Але не заўсюды можна яго уняць. Подчас з ім рады нямашака, аж хата ходырам ходзіць. Матчыных ласкаў ён не баіцца і выцяць ніколі ня дасцэ. Улепіцца, гад, ззаду за спадніцу, і хоць ты што хочаш рабі. А калі часам пашанцуе матцы хвасянуць яго разоў колькі, дык ён адбяжыцца ды пакепліваць пачынае:

— Дзякуй табе, мамка, што сьпінку пачухала! Мэрам мух абагнала, не баліць анi званнечка!

Варуецца ён аднаго татулькі. Але калі татулькі ў хаці німа, дык нічога ня ўдзееш. Застаецца адзін спосаб, каторы матка подчас з карысьцю і ўжывае. Дзеля гэтаго яна, нібы зьнячэўку, пачынае гаворку пра садэ альбо агароды. Тагды Юзік раптам сьціхае і зараз-жа руліцца зьнікнуць з вачэй. Калі нельга уцячы на двор, дык ён залазіць на печ, садзіцца там каля коміны ды пачынае сьціху сьпяваць і наўмоц трасьці галавою, каб ні пачуць ніводнаго слова. Гаворка гэта драптуе душу яго і валтузіць сэрцо яго. Кожнае слово скрабе і скрыгіча у вушшу, як нож па шклу. Ні разумеючы у чым тут справа, можна падумаць, што гэта Юзік вінен, што ня цьвілі сёлета яблыні, што гурке згінулі, чэрва грушы зглуміла, а бручка з рэпай ня ўрадзіліся. А дзело тлумачыцца проста: у справах агародных і садовых Юзік мае нячыстае сумленне. Ён пэвен, што калі пад гэтакую гаворку будзеш назаляць ды стырчэць на ваччу, дык ня мінецца, каб ня ткнуў хто пальцам ды ня вызьверыўся на яго, сярдзіта нахмурыўшы бровы:

— Дык ці-ж ад гэтых шаляніц што захаваецца?! Завязацца не дадуць!.. І як іх жыватэ трываюць, скажэце на ласку Божую?!

А німа горш нічога, як моўчкі зносіць зьдзек і паняверку! Праўда, ён дасьціпнейшы агароднік сярод сваіх сяброкоў і лазіць ў агароды, ён таіцца ня будзе, бо ня лічыць гэта за грэх. Але ён згарэў-бы ад сораму, каб палез у свой агарод. У чужыя агароды лазяць усе. і брэшуць людзі, як кажуць, што за гэта Бог руку скарае. Вот сьвістаць у хаці, красьці ці лаецца, або паказваць пальцам на вясёлку,— вот гэта праўда, што грэх. А то...

— Ат!—моршчыцца Юзік, седзючы на печы за комінаю: —думаюць, што малы, дык і дурны. Ды й няшкода ім малога. Ведаюць, што прыкра слухаць, дык і робяць усё на задор.

Ад гэтых думак Юзіку робіцца сумна й нядобра. Шмаргануўшы носам, ён цяжка ўздыхае. Нудныя думкі плывуць адна за аднэй, цягнуцца, ўюцца, як павуцьё ў паветры, ліпнуць, сплятаюцца ды асаджваюцца пылам дзесь у сярэдзіне. Ён не бароніцца ад іх, не хаваецца, а шчыльней туліцца да коміны ды яшчэ горш пачынае журыцца. Подчас прыемна бывае бязмоўна пераносіць зьдзек і пагарду і пачуваць сябе горкай сіратцінай. Сіроткі усюды маюць прывет і ласку, іх усюды шкадуюць, прымаюць і кормяць... І здаецца Юзіку, што ня сын ён бацькоў сваіх, ня іх дзіця радзонае, а якісь невядомы хлопчык-знайдзёныш, без бацькі і маткі. І Антось ня брат яго, Катарына ня сястра яго родная, а чужаніца, як і Шапытовых Пінка, прыкладам...

Гэтую Пінку Юзік зьнявідзеў, як першаго ворага.

Пінка належыла да ліку тых вясковых дзяўчат, каторых дражняць у нас «панскімі». Не даўно яны зьявіліся на сьвет і ня шмат іх бывае на вёсках. Калі падрахаваць век іх уважна, дык выйдзе, што яны равесьніцы вясковаму настаўніцтву,—таму настаўніцтву, што, адтрымаўшы адукацыю у царскіх сэмінарыях, станавіліся панамі у вачох роднаго бацькі: лікам-жа тых панскіх дзяўчат роўна столькі, сколькі тых гаспадароў на сяле, у каторых падсяваны хлеб на стале і дзедаў бот на назе.

«Панскія дзяўчаты» трымаюцца заўсёды асобнай шчуплай жменькай. Яны лічаць сябе разумнейшымі, зграбнейшымі і харашэйшымі за незаможных сваіх равесьніц і сяброўствам з імі пагарджаюць. Яны не сядзяць з імі у вечар на прызбах, не сьпяваюць песьняў і ня ходзяць на спацыр. Яны заўсёды трымаюцца асобна.

Усё, што мае просты, вясковы, звычайны выгляд, што носіць знаёмую азнаку, яны ненавідзяць усімі шлункамі цёмнае душы свае. З свае мовы сьмяюцца, перакрыўляюць яе і з цёмнай агідаю сьляпога зьняважання дражняцца і націскаюць на «э», вымаўляючы словы: садэ, валэ, селядцэ. Пераступіўшы парог свае хаты, яны не размаўляюць па-прасту, а «пшыкаюць» па-польску, або «какаюць» па-маскоўску, як гдзе лічаць гэта патрэбным ці вымагаецца, на іх думку, мамэнтам. Колісь некі дурань сказаў на іх д а м ы,—дык гэтае абрыднанае французскае слово так падышло да іх густу, што яны, перакруціўшы яго ні к сялу, ні к гораду,—ужываюць пры уселякім здарэнню, кажучы на сябе: «мы—да». Апошняя часьціна гэтаго слова, мабыць, ня ўтрымалася ў іх памяці, або не дачуло іх вухо, ды так і пайшоў гуляць па вёсцы першы складок.

На уборы цягнуць з бацькоў апошнюю капейку. Насіць лапці саромяюцца і пабудзеннаму ходзяць босыя, а ў сьвято абуваюцца у чаравікі, з бліскучымі галёшамі узімку і улетку. Каб быць бялейшымі, дык яны тайком ад мацеркоў мыюцца малаком і абвязваюць хусткаю твар ад загару, а дзеля кволасьці—часта посьцяць і ядуць па-курынаму. Іншыя гладка зачэсваюцца, а другія носяць «моду» на лбе на кшталт жарабячае грывы.

Што вечар сядзяць яны на прызбах, сьпеваюць песні і да поўначы спацыруюць з настаўнікамі, сэмінарыстамі і тэлеграфістамі. У нядзельку, ці ў сьвято якое, пахаджаюць з імі па вуліцах, кожная пад парасонам, у белых пальчатках, у бліскучых галёшах і ў крамных спадніцах с хвальбонамі і хвалдамі. Набажэнства не апускаюць ніколі, хіба захварэе каторая, або сіламоц хто затрымае. У царкві становяцца асобна, але на відавоку, на самым звсі, каб пазухаваць уборамі ды каб зручней было угледацца, як хто хрысьціцца, у вошта апранут і ці хораша моліцца. Раней, паводлуг касьцельнаго звычаю, бралі у царкаў кантычкі і, разгарнуўшы, глядзелі у іх, як авечка у аптэку, бо чытаць ня умелі. Цяпер гэтаго ня робяць, за тое ходзяць на клірас сьпеваць, і сьпеваюць там тонка і моцна, як пенька ня трэсьне. Кожная руліцца рабіць гэта як найгучней, каб усе чулі і ведалі, што гэта вывела яна, а ні хто іншы. У вольны ад сьпеву час хрысьцяцца, дзеля чаго, нахіліўшы голаў і моцна сьціснуўшы пальцы, прыкладаюцца да ілба; патрымаўшы там руку, спаважна паднімаюць вочы у верх ды мяркоўна, мэрам прышпільваючы гузік, кладуць пальцы на іншыя мейсцы. Да крыжу падыходзяць спаважна і ціха, але, падышоўшы, руліцца пацалаваць крыж першымі, чаго натта ня любіць наш сівы старэнькі панойцеп.

Старэнькі ужо стаў, ён не дачувае крошку на вухо і дзяцініцца подчас. Прышла, напрыклад, раз да споведзі кабеціна з суседней вёскі і, Бог яго ведае, ці то кабета нічога не казала, ці то панойцец не дачуваў, а толькі ён нешта верадаваў і пытаўся на усю царкаў:

— Чаго-ж ты, нябога, маўчыш? Сьвятая, ці што? Кажы, чым Богу грэшна!

*) Глядз. № 28.

Прачынаўся Юзік ад журбы свае увесь мокры ад сьлёз, спакутаны і змарнелы ды пачынаў сапраўды плакаць, покі матка, ведаючы яго натуру, не падыходзіла яго супакоіць. І ўсё праз тыя агароды, каб іх агне высмаліла! Як не хітраваў Юзік, як не варавауся, але мабыць такі не усьцярогся: у хаці дазналіся, што ён лазіць у чужыя агароды і ўжо ня першы год. Не хацеў Юзік верыць, што бацькі ведаюць, покі ня дачуўся на уласныя вушы. А да таго часу пешыў сябе думкаю, што ўсе яго шаленствы нікому невядомы.

Раз ён позна загуляўся «у сьвінку». Ужо добра сьцямнело, як ён, закінуўшы кій на плячо, шпарка імчаўся дамоў на вячэру. Вароты былі зачынены. Юзік уперся плячом, каб расчыніць дзьверцы у варотах, аж раптам чуе размову. Гаворыць татулька з маткаю, седзючы, мабыць, на прызьбе.

— Пра мяне!—спалохаўся ён ды, затаіўшы дух, стаў прыслухвацца.

— Ня дам веры, бацька,—казала матка:—наш ня лазіць. Дзе яму?!

— Ня лазіць!—перапыніў яе татулька.—Дай ты сьвет, маці! Гэта мы ня ведаем нічога,а паслухай, што кажуць людзі: на вуліцу брыдка выйсьці! У Труды—грады сталачыў, у Дзямешкі — галлё паламаў; хаўру завеў, у Катрачкі пэўня задушыў...

— Пеўня?—зьдзівілася матка.—На што-ж яму певень здаўся?

— На што? Зводзіць біцца. Да ці я табе не казаў?Пазаўчора,—пачаў расказваць татулька:—прыязджаю я з ворыва гэтак а поўдня. Распрог я каня ды, ня скідаючы хамута, вяду яго ў хлеў, аж тут—адкуль ён узяўся?—падскаквае гад гэты ды пытае:

— Татка, больш не паедзеш араць? Дай я завяду каня на выган!

— На які, кажу, выган? Вось крошку снадзе гарачыня ды зноў трэба ехаць на поле.

— Дык ты яго татка, прывяжы да возу, а я буду мухі аганяць.

— На што аганяць? Ніхай ідзе ў хлеў: там і халадок і мух няма,—адказваю я ды адчыняю, вядома вароты. Толькі я прычыніў дзьверы, аж тут як пырснуць мне ў вочы куры, дык я думаў, што чэрці павылёталі з пекла,—ніхай ты згары, ніхай. Ушчухаўся крык, галас; конь спудзіўся ды ўцёк. А гэта ён палавіў ды зачыніў тут беўняў, каб потым зводзіць біцца...

Татулька яшчэ штосьці казаў матцы,але Юзік ня стаў болей слухаць. Ён ціхенька адышоўся ад варотаў ды пашыбаваў зноў да хлопцаў. У той вечар вярнуўся дадому ён позна. Тагды-ж трапілася з ім яшчэ адна прыгода, каторая надоўга пасварыла яго з Катарынаю.

У хаці ўжо спалі і пагасілі агонь. Ідучы дамоў, Юзік ня йшоў, а краўся, як кот, каб паціхеньку увайсьці ў хату ды няпрыкметна легчы спаць. Раптам пачуў ён, што ў садку, каля весьніц, нештa шалпочацца. Юзік спалохаўся і спыніўся,але не ўцякаў, а вытрашчыў вочы ды стаў угладацца. «Ці не зладзей?—падумаў ён.—А можа хто у грушы палез? Дык не павінна,—гадаў сабе Юзік:—садавіна зялёная. А тым часам, што-ж гэта за яно!?» І страшна і уцякаць боязна, каб не схапіло што ззаду. І вось стаіць ён, трымаціць ад страху, стрыжэ вушыма ды слухае. Ціхата. Хмаркі бягуць па небі, а месяц то заблішчыць, то зноў схаваецца...

— Адчаніся ты, слата!—пачуўся ціхі дзявочы голас.

— Адчаплюся, як ажанюся!—адказаў нехта сьмяючыся.

Юзік пачуўся, што у яго ў роце высахло. Ён лізнуў языком губы і пракаўтнуў сьліну. Тым часам з цемры выплылі дзьве постаці:—дзявочая і хлопцава. Юзік папярхнуўся і чуць ня крыкнуў ад задзіўлення... Гэта была нашая Катарына з Дзіваковым Адамам. Вышаўшы на віднае, яна ушчапілася на плот, села ды стала гойдацца на жэрдцы, перацінаючы:

Ня тупай, ня тупай
Казак нагою!
Ня выйду, ня выйду
Гуляць з табою!

Дзівак так сама не маўчаў, ён так сама хістаўся, тупаючы нагою, і нібы адказваў, сьпяваючы:

Брэшаш, дзяўчына,
Брэшаш, любчына,
Брэшаш, сэрцо маё!

Тым часам Катарына стаяла на сваём і перацінала далей:

Ня выйду, ня выйду
Гуляць з табою!

— А бадай-жа ім брыдкі сьвет! Любяцца, — шапярнуў Юзік, а далей аж рот раззявіў ад неспадзяванкі. Дзівак раптоўна абхапіў Касю упол ды стаў лашчыцца і абнімацца.Катарына сьпярша не давалася, валтузілася, адпіхалася рукамі, а потым неяк сьцішылася, абмякла ды абвіла яго шыю рукамі. Юзік стаяў на мейсцы і ня ведаў дзе яму дзенца ад гэтакага сораму і дзіва. Шчокі яго загараліся, сэрцо калацілося, як птушка ў сіле. Паціху, як кот, падкраўся ён да дзьвярэй ды ўскочыў у хату. Матка штось пыталася у яго, але ён моўчкі залез на пасьцель, закрыўся коўдраю з галавою ды заплюшчыў вочы. Трэйчы перахрысьціўшы яго, матка моцна пазіхнула ды гэтак сама сьцішылася.

На заўтра, ранютка устаўшы, Юзік увесь час шукаў здарэння напаткаць Катарыну дзе небудзь адну. Нарэсьце яму пашанцавало: Катарына пайшла ў камору ды стала там длубацца ў кухры. Ён падышоў да яе, праглынуў сьліну, каб прамачыць у роце, ды сіпата, з некім пераляканы, запытаў:

— Што гэта ты рабіла з Дзіваком?

— Калі?—запыталася тая.

— Нібы-то ня ведаеш! А ўчора увечар, на плоці.

Пачуўшы гэта, Катарына адхіснулася ад кухра, неяк выпрасталася, азірнула яго, такік першы раз бачучы, пахісгала на неваштa галавою ды, неяк ціха, нібы разважаючы, прамовіла:

— Дурань!

Потым адвярнулася, нагнулася зноў над кухрам ды, пасьміхаючыся, дадала:

— Вырасьцеш, дык будзеш ведаць.

— А я маме скажу,—сказаў Юзік з хітрасьцю, каб дасьведчыцца, ці спалохаецца яна.

— Ня руш, Юзік, ня трэба! Грэх гэта, братка,—ты-ж хлопец,—стала прасіць Катарына, пазіраючы кудысь такімі вачыма, быццым бачыла рай, або Бога самога. Гэтак сумна і хораша пазірае Божская Матка на абразох у касьцеле. А Юзіку стало нудна па сэрцы. Нешта мілае, бязмерна каштоўнае, адарвалося і зьнікло навекі. Ён раптам пачуў, што паміж ім і Катарынаю працягнулася некая сьцяна, тонкая і халодная, як туман. Катарына, наша Кася-весялуха, што так хораша сьпевала песьні, што садзіла кветкі ў агародзе і пляла яму вянке на голаў, што давала яму цукеркі і ўсялякія цацкі, зрабілася цяпер чужою і далёкаю, як і іншыя дзяўке на вёсцы. Аж на плач забірало Юзіка...

Посьля гэтае гутаркі, Катарына доўга баялася, што Юзік памсьціцца ды раскажа матцы, або асароміць пры ўсіх калі небудзь у хаце. Яна называла яго браткам, саколікам, удыгала яму, часам цукеркі купляла, але надарэмна. Юзік казаць не казаў, але й на залёты ня йшоў. Яна стала для яго чужою...

(Канец будзе).

**Язэп Лёсік.**

**М. Грамыка.**

# Зьмітрок з „Высокай Буды“.

*Драма у 4-ох дзеях.*

(Глядз. № 33).

## Дзея 2-ая.

Хата Зьмітрака. Дзень.

### ЗЬЯВА I-ая.

**Аксіння.**

Аксіння. (пяе): А чый конь, а чый конь
Па загародзьдзю бегае
Ды капыцічкам, ды капыцічкам
Крамяні разьбівае,
А у крамяні, а у крамяні
Агню дасьпявае?
Ай, у крамяню, ай, у крамяню!
Дай-жа нам агню
Запаліці, засьвяціці
Жаніху сьвячу.

### ЗЬЯВА 2-ая.

**Аксіння і Зьмітрок.**

Зьмітрок. Во і я ужо палуднаваць прыйшоу. Мая жонка паварыха добрая: зацірку смачную згатавала.

Аксіння. Якая я паварыха, Зьмітрочку! Ты ужо ад маіх ласау адвык. Як для цябе, я баба простая... Прауду кажу. Во ты нейкую кніжку трымаеш, а ці хопіць у мяне слоу пагаварыць аб ёй?..

Зьмітрок. Чаму ня хопіць? Розум у цябе ёсьць, каб крыху граматы... Але маеш шчырае сэрцо да мяне і да людзей,—за гэта не адступлюся ад цябе ніколі. (палуе яе).

Аксіння. Ніколі? Бог яго ведае, Зьмітрочку! Каб Бог паслау нам дзіцянё,—гадавала-б я яго, гадавала...

Зьмітрок. Ну, зноу гэтая твая маркотная думка! Ціха, мо' йшчэ будуць... А калі ня зьявіцца, мо' і лепш... Вальней тагды працаваць для другіх.

Аксіння. Гэткая праца не па мне. Не, Зьмітрочку, хоць ты і разумны, а праглядзеу нашае жаночае сэрцо.

Зьмітрок. Хіба яно такое таёмнае?

Аксіння. Вельмі таёмнае, Зьмітрочку. Ну, садзіся, родненькі, палуднуй!

Зьмітрок. Гляджу праз гэтую шыбку у ваконцы, бачу нашу вуліцу няпрытульную і убогаю і успамінаюцца прашпекты ды палацы мураваныя. Але ні за вошта не пайшоу-бы туды. Прыкра і дрэнна каля іхніх муроу халодных ды турботы паусёдзённай! Кідаюцца людзі туды, сюды... У нас бедна, цёмна, а калі глянеш у абшары вялізарныя за вёскай,—траука рунее, колас красуе, а з гаю чуцён сьпеу птушыны,— дык так на душы радасна, так добра!

Аксіння. Гэта твайй душы так здаецца, а ці хто другі знаходзіць такія словы, як мой Зьмітрок! Нашым усё роуна: ці аржэнне, ці пуня, ці гай, ці ёуня.

### ЗЬЯВА 3-яя.

**Тыя-ж і Саука.**

Саука. (напявае). Дзілінь, дзілінь, бау,—Саука прапау! Палажылі Сауку на голую лауку. Лаука трасецца, Саука сьмяецца. Не, кажу, пайду да Зьмітрака, а мая жонка: «Куды ты, саромся людзей». А чаго мне саромецца? Ці я злыдзень які? Не, кажу, пайду, бо сумна з табой,—гэта з маёй жонкай,—у хаце сядзець.

Зьмітрок. Добра, што зайшлі сусед,—папалуднуем. Бачыце, які стос бліноу нясе мая Аксіння.

Саука. Слаунае дзело! Каб чарку гарэлкі да іх, дык бы...

Аксіння. Суседзе, будзе ужо з вас чарачак. Выпілі у хаце, а у гасьцях закусвайце.

Саука. Прауду кажаце гаворыце. Ну, калі у вас німа і аднэй чаркі,—нядоля у вас у хаце!.. Буду бліны трэсьці. Смачныя бліны! А мая жонка, дык такіх каваладу напячэ, што і Лыска ня есьць. А скажыце, Міронавіч, як вы вазвалі? Ен, кажуць хітры, вельмі хітры, але нядужы,—але ці прауда гэта?

Зьмітрок. Я ужо казау ня раз пра усё, што бачыу, аб чым чуу.

Саука. А я ня чуу.

Аксіння. Бо, мусіць, чухаліся пасьля чаркі.

Саука. Не, мая кабета, хутка кажаце! А што гэта такое, скажы мне шчыра, што з чалавека зрабіць можа зьвера, а?

Аксіння. Ня угадаю ніяк.

Саука. Ну, а гэта што: поуна бочачка круп, а на версе струп?

Аксіння. Пэуне, мак.

Саука. Не, макава галоука!

Аксіння. А ну, вас зусім!

### ЗЬЯВА 4-ая.

**Тыя-ж і Панас.**

Панас. Пахвалёны вам, людзі добрыя!

Зьмітрок. Во, госьць шаноуны! Як дужы, дзеду?

Панас. Мой сынок, ці мне ужо дужацца! Чакаю толькі веку, дамавіны магільнай. Пабачыць-бы сёлетняе збожжо, каб спачыць з ціхай мысьлю аб спрацаваных унуках.

Саука. Дзяды ня знаді бяды, а унукі набраліся мукі!

Панас. Жыцце, чалавеча, заужды было ня лёгкае дзело, а калі хто яго споуніу, дык і паміраць лёгка. Ня страшна сьмерць нікому, калі Бог у яго дому. (к Зьмітраку) Ведаю, сынок, што у тваёй хаці прабывае прауда і спакой... Ніколі ня бачыу я, каб ты быу пьяны, ня чуу, каб вы з Аксіньнёй сварыліся.

Зьмітрок. Можа мы ціха сварымся, а дзед і ня чуе.

Аксіння. А ужо-ж так.

Панас. Дзеда ня лёгка абдурыць, дачушка... Людзі бачуць, Зьмітрок, быццам ты іх цурасишся, але я ня даю таму веры.

Зьмітрок. Цураюся, калі яны прыходзяць да мяне з іхнімі дзялёжкамі, бо я ня дужа лоука лічу ці сваё, ці чужое дабро. А за другой радай ня ходзяць да мяне пакуль што; але я чакаю... Многа перадумау, і думкамі гэтымі з адчыненым сэрцам падзяліуся-б з грамадай нашай. Ты, дзеду Панас, Кажанеуская Галіна ды яшчэ можа хто, нам трэба дапамагчы адзін аднаму. У сяле і граматы німа, але не у аднэй грамаце дзело. Я бачу гэтых граматных па гарадох... Што у іх за душой? Малоцюць славамі, як цапамі на таку, а снапы ляжаць някранутымі.

Саука. Далі-Бог, прауда, каб я хварэу! Я чуу аднаго тут у мястэчку. Як пачнець, і пайшоу, і пайшоу, і пайшоу...

Аксіння. Цішэй вы, сусед. Ня добра так кідацца, калі людзі гамоняць аб важнасьці...

### ЗЪЯВА 5-ая.

**Тыя-ж і Галіна.**

Галіна. Выбачайце, я к вам, пане Дзьмітры. Тата просіць вас да сябе за тым самым дзелам, што вы ведаеце.

Зьмітрок. Ага, добра!

Аксіння. Сядайце, будзьце гасьцёй.

Галіна. Дзякую, Аксіння. Ну, як ваша новая работа? Я знайшла вам рысунак; пойдзем, мне трэба нешта вам паказаць (шэпчуцца у другім кутку).

Саука. Во, каб сюды маю жонку, дык-бы яна такі шопат-лопат разьвяла, што толькі дзяржыся, Саука!

Панас. Па галаве маркелка, а па мужыку жонка!

Саука. Дык жонка па мне? Прауду вашэць кажаце...

### ЗЬЯВА 6-ая.

**Тыя-ж.** За сцэнай гоман. Уваходзяць **селяне, бабы, Цыганок.**

Адзін. Мы к табе, Зьмітрок,—хадзі на сход, важнае дзело трэба парашыць!

Зьмітрок. Якое дзело?

Першы. А такое, што з фольваркам трэба скончыць! Даволі там панавалі. Прыйшоу час і нам панаваць!

Другі. Дабра усякаго там даволі прыпасено, як у акружанай крэпасьці.

Трэці. І коні добрыя на стайні іржаць...

Чацьверты. А што кароу па хлявох!..

Баба. Кожная па вядру малака дае. А скрыні аж трашчаць ад хустак ды кашуль галяндзкіх. Будзе чым дзіцятко спавіць!

Другая баба. Пойдзем усёй грамадой!

Цыганок. Хто ня з мірам — той проці яго! Той нам вораг!

Зьмітрок. Дык я вам вораг! На гэта я з вамі не пайду! Што рабаваць? Гэта вашыя вочы зайздросныя лічаць так, што там дабра на увесь мір. Як ваукі згаладаныя кідаецеся на падаль! А што з тэй падалі? Усё пойдзець прахам! Мужыкі пачнуць біцца за коней, бабы пойдуць скубсьціся за гаючы галяндзкія і дзяліць іх па кавалачку. Адны чарапкі, ды шматкі парасхопліваеце! Гідасьць адна! І ці пасьвятлеіцьжа у вашых хатах, калі запаліце будынак? (пауза). Гэта Цыганковы выдумкі, што скрыні трашчаць ад дабра... (пауза). Браты мае! Ці такі ваш трудавы шлях? Не ходзіце па сьлядох тых, што рабавалі і зьбіралі у скрыні свае! Так жывіце, каб саромеліся глядзець вам у вочы тыя, што бяз працы цягнуць з жыцця незапрацаванае імі дабро. Саромце іх працай сваёй і душой сваёй, як вы яе пранясьлі праз векі нядолі! А пра пана Кажанеускаго скажу: учора я гаварыу з ім. Ен аддае сваю зямлю на мір, і колькі пакояу свайго дому пад чытальню народную, каб было нам дзе узімку пагутарыць аб чым... Прашу вас, паны-брацця, уважыць на гэта, абмяркуйце мае словы!

Першы. Яно быццам што і так..

Другі. Можа пакуль што... Зьмітрок прауду кажа...

Трэці. Пан, ён сапрауды ня дрэнны чалавек, а толькі...

Цыганок. Ен ласкавы цяпер і добры!

Першы. Ці ён цябе калі скрыудзіу?

Цыганок. Ну, і цалуйся з ім! Па мне, каб яны усе паздыхалі!

Панас. Свавольны ты чалавек! Сам ці жывеш па-праудзі? (да усіх). Я вам, як стары, кажу: Зьмітрок злому не навучыць!

Цыганок. Ты ужо зьдзяцінеу, стары!

Панас. Лепш быць дзіцянём, чымся ваўком.

Саука. Чаго вы там у пана ня бачылі? У яго і гарэлкі німашака, далі-Бог, прауда! Адны тыя кніжкі, далі-Бог!

Цыганок. Дык вы яму верце, што пан хоча нам добрае дзело зрабіць! Трымай кішэні шырэй! Аддасьць ён зямлю! А што да пакояу, дык ім на кожнаго трэба па дзесяць!

Зьмітрок. Я табе кажу, што гэта будзе, дык будзе! Ты патрапіш вясьці народ, куды хочаш, але ня маеш права не даваць веры словам маім!

Галіна. Калі вы забылі пра братоу маіх, забылiся, як тата жыу з вамі,—ідзіце паліце, рабуйце! (хапаецца за галаву, выбегае).

Цыганок. Адкуль яна тут зьявілася! Нябось, у маю хату не загляне! (пауза). А ну, каторым каля баб толькі сядзець, заставайцеся з ім. Сьмялейшыя за мной! (Выбегае. За ім некаторыя).

**Заслона.**

(Працяг будзе).



## Да нядолі.

Гэй, нядоля! Адхіліся,
Сэрца ня грызі,
У гору дымам падніміся
У моро запаузі!

Патані адсюль далёка,
Каб цібе ня знаць,
Каб ня ведаць, ці глыбока
Будзеш ты ляжаць!

Табе час дауно загінуць, —
Струпянець, ня жыць,—
Веку-ж вокам не авінуць,
Як вада бяжыць.

Ці-ж ня узыдзе зорка ціха
У неба вышыне,
Ці-ж густую цемру ліха
Вон не пражане?

Ці заснуло шчасьце недзе,
Каб навек ня устаць,
Ці узялі яго суседзі
Сабе скарыстаць?!

**Крауцоу Макар.**



Выдавец: «Т-ва Беларускай Культуры». **Рэдактар Я. Лёсік.** Друкарня Я. А. Грынблята.